Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАЎ І ЦЭНТРАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Выдаецца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3.—Подпісная плата на год 5 р, і на 1/2 г. 2 р. 50.
VIII ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 12 (134) | 25 лістапада 1932 г. | № 12 (134)

## ЗЬМЕСТ

Па Народнаму Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР:

37. Інструкцыя пра парадак аплаты экспэртызы праектаў, якія прадстаўляюцца ў Навукова-Тэхнічны Савет НККГ БССР і іншых экспэртыз і консультацый, што робяцца НТС НККГ.

38. Інструкцыя аб стаўках кватэрнай платы для гаспадарнікаў і інжынэрна-тэхнічных працаўнікоў, якія атрымлівалі зарплату па спэцыяльнаму тарыфу адказных паліт-працаўнікоў, пераведзеных на аклады па пасадзе.

Па Галоўнаму Кіраўніцтву Рабоча-Сялянскай Міліцыі пры СНК БССР:

39. Інструкцыя па ўжываньні пастановы СНК БССР за 5 верасьня 1932 г. № 484 „Пра цэнтралізацыю ўліку аварыйнасьці і здарэньняў на мясцовым транспарце ў органах Рабоча-Сялянскай Міліцыі“.

## Па Народнаму Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР:

### 37. Інструкцыя пра парадак аплаты экспэртызы праектаў, якія прадстаўляюцца ў Навукова-Тэхнічны Савет НККГ БССР і іншых экспэртыз і кансультацый, што робяцца НТС НККГ.

#### 1. Парадак аплаты экспэртыз і кансультацый.

1. Плата за экспэртызу бярэцца з усіх праектаў пляніроўкі гарадзкіх паселішчаў і іншых населеных месц, праектаў жыльлёвага, камунальнага і непрамысловага будаўніцтва, якія, падлягаюць абавяз-

коваму зацьверджаньню Народным Камісарыятам Камунальнай Гаспадаркі БССР паводле пастановы СНК БССР за 14 сакавіка 1932 г. (Бюл. НК і ЦУ БССР 1932 г. № 1).

2. Плата за экспэртызы і кансультацыі бярэцца паводле паказаных ніжэй норм.

3. Паказаная плата залічваецца ў даходны каштарыс Навукова-Тэхнічнага Савету НККГ у якасьці спэцыяльных сродкаў НТС.

4. Плата па вызначаных нормах уносіцца на бягучы рахунак НТС НККГ БССР у Менскай Канторы Беларускага Камунальнага Банку тымі ўстановамі, арганізацыямі і ведамствамі, якія прадстаўляюць праект альбо зварачваюцца з хадайніцтвам аб экспэртызе альбо кансультацыі.

5. Плата за экспэртызы і кансультацыі ўносіцца да разгляду праектаў і вытварэньня экспэртыз і кансультацый. Дублікаты квіткоў аб уносе, банкавыя паведамленьні аб пералічэньні прыкладаюцца да прадстаўляемых праектаў і іншых матарыялаў, падлягаючых разгляду.

6. За разгляд асобных тэхнічных пытаньняў, за экспэртызы, кансультацыі і г. д. аплата вытвараецца ў залежнасьці ад характару і складанасьці пытаньня, аб'ёму і колькасьці працы па экспэртызе, па узгадненьні з Навукова-Тэхнічным Саветам НККГ.

7. Разгляд праектаў, якія прадстаўляюцца праектуючымі арганізацыямі як тыповыя, аплачваюцца ў двайным разьмеры супроць норм, вызначаных у паданых ніжэй табліцах.

8. Пры неабходнасьці выезду экспэртаў і кансультантаў НТС на месца, усе выдаткі па такіх выездах аплачваюцца звыш аплаты па экспэртызе і кансультацыі, па ўзгадненьні з Навукова-Тэхнічным Саветам НККГ.

### II. Зьмест праектаў, якія прадстаўляюцца для экспэртызы.

### *А. Праекты пляніроўкі гарадоў і населеных месц.*

1. Пры прадстаўленьні для экспэртызы праектаў пляніроўкі гарадоў і населеных месц павінны быць прадстаўлены наступныя матарыялы:

а) схэма разьвіцьця гораду,

б) праект агульнай пляніроўкі гораду,

в) пляны паасобных вучасткаў гораду,

г) праекты тыповай забудоўкі,

д) схэма функцыянальнага раёнаваньня,

е) схэма шчыльнасьці засяленьня і павярховасьці забудоўкі,

ж) схэма зялёных насаджэньняў,

з) схэма магістральных шляхоў,

і) схэма разьмяшчэньня мерапрыемстваў грамадзкага парадку і прызначэньня,

к) тыпавое разьмяшчэньне надземных і падземных пабудоў,

л) паасобныя праекты пляніроўкі садоў і паркаў грамадзкага прызначэньня;

м) паасобныя праекты садоў гораду,

н) тыпавыя профілі вуліц і магістраляў,
о) рабочыя чарцяжы (па меры патрэбы),
п) эканамічная запіска,
р) правілы забудоўкі населенага месца,
с) паясьняльная запіска.

2. Экспэртыза па праектах пляніроўкі гарадоў і населеных месц робіцца ў два прыёмы:
а) асноўныя заданьні і схэма пляніроўкі,
б) канчатковы праект.

3. Афармленьне матарыялаў і чарцяжоў па пляніроўцы павінна быць зроблена на падставе інструкцыі НККГ БССР, апублікаванай у Бюлятэні НК і ЦУ БССР № 1 за 1932 г.

*Б. Архітэктурна-будаўнічыя праекты.*

1. Пры накіраваньні для экспэртызы архітэктурна-будаўнічых праектаў павінны быць прадстаўлены наступныя матарыялы:
а) выкапіроўка з пляну гораду з паказаньнем вучастку будаўніцтва ў маштабе пляну;
б) генэральны плян вучастку ў маштабе ад 1:500 з нанясеньнем гарызанталяў і старон сьвета;
в) папавярховыя пляны ў маштабе 1:200;
г) ня менш 2-х фасадаў у маштабе ад 1:100 да 1:200;
д) разрэзы ў неабходнай колькасьці, але ня менш 2-х, у маштабе ад 1:100 да 1:200;
е) паясьняльная запіска з падлікам аб'ёму будынку, плошчы забудоўкі, агульнай плошчы жылой і карыснай і падлік каштоўнасьці будынку па лімітах.

У паясьняльнай запісцы павінны быць паказаны ўсе тэхніка-эканамічныя паказчыкі (асьветленасьць і інш.), дана характарыстыка праектуемага збудаваньня ў адпаведнасьці з заданьнем і паказаны прымаемыя тэхнічныя ўмовы выкананьня паасобных элемэнтаў пабудовы, зьвязаныя з мясцовымі магчымасьцямі і з патрабаваньнем заказчыка;
ж) даведка аб уключэньні будаўніцтва ў будаўнічую праграму і аб крыніцах фінансаваньня;
е) матарыялы па бурэньні грунту з паказаньнем скважын на пляне вучастку.

2. Усе матарыялы, калі праекты прадстаўляюцца для папярэднай экспэртызы ў эскізнай распрацоўцы, то праекты па гэтых пабудовах павінны быць прадстаўлены ў НТС для экспэртызы і зацьверджаньня ў другі раз у складзе канчаткова распрацаванага праекту.

Рабочыя чарцяжы прадстаўляюцца ў адным экзэмпляры пасьля іх распрацоўкі, у абавязковым парадку.

*В. Іншыя праекты.*

Праекты спэцыяльных відаў работ (вадаправод, каналізацыя, цэнтральны апал, пабудовы электрыфікацыі і цеплафікацыі і г. д.) прадстаўляюцца таксама ў 2-х экзэмплярах у складзе чарцяжоў і належных і матарыялаў паводле існуючых палажэньняў для складаньня гэтых праектаў.

*Г. Нормы плацяжоў за экспэртызу праектаў, якія прадстаўляюцца ў Навукова-Тэхнічны Савет НККГ БССР і за іншыя экспэртызы і кансультацыі Навукова-Тэхнічнага Савету.*

1. Экспэртыза праектаў пляніроўкі гарадоў і населеных месц, асноўных заданьняў да іх і схэм пляніроўкі аплачваецца ў залежнасьці ад велічыні гораду альбо іншага населенага пункту, што вызначаецца колькасьцю насельніцтва, прынятым пад увагу для будучага пашырэньня і рэканструкцыі населенага месца, паводле наступнай табліцы:

Табліца № 1.

**Аплата за разгляд праектаў па пляніроўцы.**

| Разьліковая колькасьць насельніцтва ў горадзе альбо раёне | Норма аплаты за разгляд асноўн. заданьня і схэм пляніроўкі | Норма за разгляд праектаў пляніроўкі |
|---|---|---|
| Да 10.000 | 500 р. | 400 р. |
| Ад 10.000 да 25.000 | 800 „ | 600 „ |
| „ 25.000 да 50.000 | 1000 „ | 800 „ |
| „ 50.000 да 150.000 | 1200 „ | 1000 „ |
| Звыш 150.000 | 1600 „ | 1200 „ |

2. Экспэртыза праектаў па непрамысловаму будаўніцтву (жыльлёваму, адміністрацыйна-грамадзкаму, санітарна-лячэбнаму, школьнаму, культурна-асьветнаму) і праектаў па камунальнаму будаўніцтву: санітарна-тэхнічных збудаваньняў (вадаправоды, каналізацыя, лазьні, пральні) і інжынэрных (масты, дарожныя пабудовы, трамваі, плаціны і г. д.) аплачваецца ў залежнасьці ад каштоўнасьці пабудоў паводле наступнай табліцы:

Табліца № 2

| Кошт пабудоў | Задан. для праектаў | Эскізныя праекты. | Канч. праект без эскіз. | Канчатк. праект з экскізам |
|---|---|---|---|---|
| Да 500.000 р. | 0,05 % 50 р. | 0,09 % 75 р. | 0,10 % 100 р. | 0,06 % 100 р. |
| Ад 500 да 600 тыс. | 280 | 500 | 560 | 340 |
| „ 600 „ 700 „ | 320 | 570 | 640 | 380 |
| „ 700 „ 800 „ | 360 | 640 | 720 | 430 |
| „ 800 „ 900 „ | 395 | 710 | 790 | 480 |
| „ 900 „ 1000 „ | 430 | 770 | 860 | 520 |
| „ 1000 „ 1500 „ | 475 | 850 | 950 | 570 |
| „ 1500 „ 2000 „ | 525 | 940 | 1050 | 630 |
| „ 2000 „ 3000 „ | 600 | 1000 | 1200 | 720 |
| „ 3000 „ 4000 „ | 650 | 1100 | 1300 | 780 |
| „ 4000 „ 5000 „ | 700 | 1200 | 1400 | 840 |

3. Разгляд праектаў па прамысловаму будаўніцтву сыстэмы Наркамгасу (асноўных заданьняў і тэхнічных праектаў як па будаўнічай частцы, так і па тэхналёгічнай, энэргэтычнай, транспартнай і сантэхнічнай) аплачваецца па нормах, устаноўленых загадам ВСНГ БССР за 15 лістапада 1927 г. № 137 і загадам па Наркамснабу СССР за 22 красавіка 1932 г. у залежнасьці ад поўнай каштарыснай каштоўнасьці ўсяго збудаваньня, улічваючы абсталяваньне, паводле прыведзенай ніжэй табліцы:

Табліца № 3

**За разгляд праектаў па прамысловаму будаўніцтву Наркамгасу:**

| Каштоўн. збудаваньня, уключаючы і абсталяваньне. | Нормы плацяжоў за разгляд. асноўн. задан. і тэхн. праектаў |
|---|---|
| Да 500 тыс. руб. | 0,25 проц. ад каштоўн., але ня менш 750 руб. |
| Ад 500 тыс. руб. да 1 млн. руб. | 0,20 „ „ „ 1000 „ |
| „ 1 млн. руб. да 2 млн. руб. | 0,19 „ „ „ 2000 „ |
| „ 2 „ 4 „ | 0,18 „ „ „ 3800 „ |
| „ 4 „ 6 „ | 0,16 „ „ „ 7200 „ |
| „ 6 „ 8 „ | 0,14 „ „ „ 9600 „ |
| „ 8 „ 10 „ | 0,10 „ „ „ 14400 „ |

Звыш 10 млн. р. на 0,01 проц. менш праз кожныя 5.000.000, але ня ніжэй 0,04 проц.

Народны Камісар Камунальнай
Гаспадаркі БССР **Жуковіч.**

16 кастрычніка 1932 г.

**38. Інструкцыя аб стаўках кватэрнай платы для гаспадарнікаў і інжынэрна-тэхнічных працаўнікоў, якія атрымлівалі зарплату па спэцыяльнаму тарыфу адказных палітпрацаўнікоў, пераведзеных на аклады па пасадах.**

(Выдана на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР № 44/1144 за 27 ліпеня 1932 г. і пастановы СНК БССР і КП(б)Б за 5|V-1932 г. № 263).

1. У із'яцьце з існуючых пастаноў аб квартплаце, наймальнікі жылых памяшканьняў, якія аплачвалі іх па стаўках адказных палітработнікаў, з 1 ліпеня 1932 г. павінны ўносіць квартплату па стаўках, паказаных у далучанай да гэтай інструкцыі шкале.

2. З паказаных у далучанай шкале ставак робяцца працэнтныя скідкі ў залежнасьці ад тэрытарыяльнага знаходжаньня жылішч і адсутнасьці асноўных элемэнтаў дабрабыту (паводле існуючага закону).

3. У даведках з месца працы, выдаваемых паказаным у артыкуле 1 гэтай інструкцыі працаўнікам для прадстаўленьня ў домакіраўніцтвы, паказваецца: а) прозьвішча, імя і імя па бацьку працаўніка; б) займаемая пасада; в) разьмер зарплаты і г) стаўка квартплаты для данага працаўніка са спасылкай на гэту інструкцыю.

За правільнасьць выданых даведак нясуць пэрсанальную адказнасьць па суду асобы, падпісаўшыя даведку.

4. Гаркамгасам прапануецца ўжыць меры для азнаямленьня мясцовых установ, прадпрыемстваў і арганізацый з гэтай інструкцыяй і арганізаваць кантроль за правільным правядзеньнем яе ў жыцьцё.

Нам. Народнага Камісара Камунальнай Гаспадаркі БССР **А. Левін.**

Нач. Жыльлёва-Земельнага Сэктара НККГ БССР **Цімашэвіч.**

21 лістапада 1932 г.
№ 3.

Дадатак да арт. 1 Інструкцыі НККГ БССР № 3 за 21 лістапада 1932 г.

**Стаўкі квартплаты для гаспадарнікаў і інжынэрна-тэхнічных працаўнікоў, якія атрымалі зарплату па спэцыяльнаму тарыфу адказных палітпрацаўнікоў і пераведзеных на пасадныя аклады:**

| Месячная зарплата | Стаўка квартплаты за 1 квадратны мэтр |
|---|---|
| Да 325 р. . . . . . . | — руб. 44 кап. |
| Ад 326 „ 350 „ . . . . . . | — „ 50 „ |
| „ 351 „ 375 „ . . . . . . | — „ 54 „ |
| „ 376 „ 400 „ . . . . . . | — „ 58 „ |
| „ 401 „ 425 „ . . . . . . | — „ 62 „ |
| „ 426 „ 450 „ . . . . . . | — „ 66 „ |
| „ 451 „ 475 „ . . . . . . | — „ 70 „ |
| „ 476 „ 500 „ . . . . . . | — „ 74 „ |
| „ 501 „ 525 „ . . . . . . | — „ 78 „ |
| „ 526 „ 550 „ . . . . . . | — „ 82 „ |
| „ 551 „ 575 „ . . . . . . | — „ 86 „ |
| „ 576 „ 600 „ . . . . . . | — „ 91 „ |
| „ 601 „ 625 „ . . . . . . | — „ 96 „ |
| „ 626 „ 650 „ . . . . . . | 1 „ 01 „ |
| „ 651 „ 675 „ . . . . . . | 1 „ 06 „ |
| „ 676 „ 700 „ . . . . . . | 1 „ 11 „ |
| „ 701 „ 725 „ . . . . . . | 1 „ 16,5 „ |
| „ 726 „ 750 „ . . . . . . | 1 „ 22 „ |
| „ 751 „ 800 „ . . . . . . | 1 „ 27,5 „ |
| Звыш 800 . . . . . . . . . | 1 „ 32 „ |

Начальнік Жыльлёва-Зямельнага Сэктара НККГ БССР **Цімашэвіч.**

# Па Галоўнаму Кіраўніцтву Рабоча-Сялянскай Міліцыі пры СНК БССР:

„ЗАЦЬВЯРДЖАЮ“.
Нам. Нач. Галоўн. Кіраўн. РС Міліцыі
пры СНК БССР Пэдэр.
27 кастрычніка 1932 г.

## 39. Інструкцыя па ўжываньні пастановы СНК БССР за 5 верасьня 1932 г. № 484 „Пра цэнтралізацыю вучоту аварыйнасьці і здарэньняў на мясцовым транспарце ў органах РС Міліцыі“.

### I. Агульныя паказаньні.

1. Усе дзяржаўныя і грамадзкія ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі і паасобныя ўладары транспартных сродкаў аб усіх выпадках здарэньняў з іх транспартам паведамляюць у орган РС Міліцыі, на тэрыторыі якога мела месца здарэньне, а там, дзе пры кіраўніцтве РС Міліцыі ёсьць спэцыяльныя аддзяленьні (інспэкцыі) па рэгуляваньні вулічнага руху—у апошнія.

2. Уладары транспартных сродкаў выконваюць правілы гэтай інструкцыі незалежна ад наяўнасьці нумарнога знаку (бляшанкі) на іх транспарце (напрыклад, вайсковая павозка і інш.).

3. Мясцовым транспартам лічацца: аўтамабілі грузавыя і легкавыя, аўтобусы, матацыклеткі, велёсыпэды, легкавы і ламавы гужтранспарт, ручныя цялежкі, рэльсавы (трамвай) і спэц. транспарт, трактары, цягачы і інш.

4. Правілы гэтай інструкцыі распаўсюджваюцца на ўсе выпадкі здарэньняў, меўшыя месца на вуліцах, дарогах, шосах, мастох, пераездах, пераходах і інш. мясцох, служачых месцам руху мясцовага транспарту, а таксама на тэрыторыі гаражоў, паркаў, дэпо і паасобных месц стаянак транспарту.

5. Мясцовы транспарт разьбіваецца на дзьве групы і на два віды:

па групах: а) належачы дзяржаўным, грамадзкім установам, прадпрыемствам і арганізацыям,

б) прыватны транспарт;

па відах: а) служачы для мэтаў эксплёатацыі,

б) служачы да асабістага карыстаньня.

Увага. Да апошняга віду адносяцца ўласьнікі транспарту, скарыстоўваючыя апошні толькі для асабістых мэт, а не для эксплёатацыі з мэтай атрыманьня прыбытку.

6. Здарэньнем называецца ўсялякае зьявішча, уне залежнасьці ад вынікаў, з удзелам транспартных сродкаў, парушыўшых правільнасьць руху ці выклікаўшых сталкнавеньне транспартных сродкаў з іншымі, з нярухомым прадметам, чалавекам ці жывёлай.

Вынікам здарэньня могуць быць аварыя і няшчасныя выпадкі з людзьмі ці тое і другое разам.

7. Аварыяй называецца ўсялякае ўзьнікшае ў выніку здарэньня папсаваньне ці паломка, якое перашкаджае далейшай нармальнай рабоце транспарту без таго альбо іншага спраўленьня (рамонту).

8. Няшчасным выпадкам з людзьмі называецца ўсялякае цялеснае пашкоджаньне (ўшыб, раненьне і інш.) ці сьмерць людзей, узьнікшыя ў выніку здарэньня.

### II. Парадак паведамленьня аб здарэньнях.

9. Абавязак паведаміць аб здарэньні ў мясцовы орган РС Міліцыі па месцу здарэньня ці аварыі ўскладаецца:

а) на адказную асобу, якой непасрэдна падпарадкаван вадзіцель транспарту, належачага дзяржаўным, грамадзкім установам, прадпрыемствам і арганізацыям;

б) на ўласьніка прыватнага транспарту;

в) на асабістага карыстальніка транспарту (дапасавальна да п. 5 гэтай інструкцыі);

г) на лячэбную ўстанову, аптэку, паасобнага ўрача і іншы мэдычны пэрсанал (фэльчара, акушорку) пры яўцы ці дастаўленьні да іх для аказаньня мэдычнай дапамогі асоб, пацярпеўшых ад здарэньня;-

д) на прыёмны пакой і іншыя лячэбныя ўстановы пры дастаўленьні да іх асоб, забітых ці памёршых у выніку здарэньня.

10. Першапачатковае паведамленьне аб здарэньні асобам, паказаным у п. „а“ і „б“, ускладаецца на вадзіцеляў транспарту.

Калі на месцы здарэньня будзе прадстаўнік РС Міліцыі, дык вадзіцель абавязан паведаміць яму аб здарэньні. Калі прадстаўніка РС Міліцыі ня будзе, дык пры здарэньні, у выніку якога мела месца цяжкае раненьне або сьмерць людзей, разбурэньне шляху, ці шляхавых пабудоў (мост, пуцеправод і інш.), буйнае папсаваньне транспартных сродкаў, маемасьці пабудоў ці чакаецца працяжнае (звыш 30 мінут) спыненьне, перапынак ці цяжкасьць руху, вадзіцель абавязан паведаміць у РС Міліцыю па тэлефону альбо іншым спосабам.

### III. Парадак накіраваньня паведамленьняў аб здарэньнях.

11. Асобы і ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі, паіменаваныя ў п. 9 гэтай інструкцыі, зьвесткі аб здарэньнях накіроўваюць у мясцовы орган РС Міліцыі праз складаньне асобных картак, устаноўленых гэтай інструкцыяй.

12. Карткі дасылаюцца:

а) па форме № 1—асобамі, установамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі, паказанымі ў п. 9, літ. „а“, „б“ і „в“;

б) па форме № 2—паказанымі ў пункце 9, літ. „г“ і „д“, асобамі і ўстановамі.

13. Карткі накіроўваюцца ў мясцовы орган РС Міліцыі:

а) аб здарэньнях, у выніку якіх мелі месца цяжкія раненьні альбо сьмерць людзей,—неадкладна;

б) ва ўсіх астатніх выпадках—не пазьней 24 гадзін з моманту здарэньня альбо аварыі.

14. Карткі накіроўваюцца ў мясцовы орган РС Міліцыі па пошце, рассыльнымі ці іншым спосабам, забясьпечваючым своечасовае дастаўленьне іх па прызначэньні.

**IV. Парадак запаўненьня картак аб здарэньнях.**

А. Агульныя паказаньні.

15. Карткі запаўняюцца чытэльным почаркам, абавязкова атрамантам ці, у крайнім выпадку, хэмічным алоўкам без падчыстак і памарак. Адказы павінны быць кароткімі без дапушчэньня скарачэньня паасобных слоў.

16. Ва ўсіх выпадках, калі на тое ці іншае пытаньне даць адказ немагчыма, замест адказу дакладна паказваюцца прычыны (напрыклад: згуба рэчаў пастрадаўшым, няпрытомнае становішча і г. д.).

17. На кожнае здарэньне складаецца паасобная картка для кожнага ўдзельнічаўшага ў здарэньні транспарту.

18. Картка па форме № 1 запаўняецца ў выпадках, калі ў выніку здарэньня мелі месца:

а) няшчасныя выпадкі, пры якіх былі ўшыбы, раненьні, калецтвы ці сьмерць людзей;

б) авары;

в) зьнішчэньні, усялякага роду папсаваньні, папсуцьцё маемасьці ці грузу пры каштоўнасьці звыш 10 рублёў;

г) сталкнавеньні, зыходы, разрывы;

д) спыненьне, перапынак ці цяжкасьць руху, працягваючыяся звыш 30 мінут.

Б. Запаўненьне карткі па ф. № 1.

19. Картка складаецца асобамі, установамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі, паказанымі ў п. „а“ арт. 12 гэтай інструкцыі, калі іх транспарт удзельнічаў у здарэньні, уне залежнасьці ад таго, па чыей віне яно здарылася.

20. Запаўненьне карткі робіцца на падставе пісьмовай альбо вуснай заявы вадзіцеля транспарту (п. 10).

21. Картка падпісваецца асобай, на якую ўскладзен абавязак паведамленьня аб здарэньні (літ. „а“, „б“, „в“ арт. 9).

22. У тым выпадку, калі паведамляюцца даныя па пытаньнях карткі, маючых гатовы (надрукаваны) сьпіс адказаў (гл. пытаньні 8, 9, 10, 18), адказ даецца праз падкрэсьліваньне адпаведнага слова

**Па пытаньню 2**—запаўняецца ў органе РС Міліцыі, атрымаўшым картку.

**Па пытаньню 3**—дакладна паказваецца месца здарэньня (на вуліцы, шляхох і г. д.—арт. 4 інструкцыі) з паказаньнем дакладнага месца (назва вуліцы, нумар дому, на шашы). У выпадках, калі здарэньне мела месца за мяжой гораду, паказаць адлегласьць у кілёмэтрах ад бліжэйшага населенага пункту і г. д.

Апрача таго ў гэтым пытаньні паказваецца, якія былі абставіны на месцы здарэньня, г. зн. ці здарылася яно на перакрыжаваньні (якіх вуліц ці завулкаў), перасячэньні шляхоў, на стрэлцы, уклоне, пад'ёме, закругленьні, чыг. пераезьдзе і г. д.

**Па пытаньню 7**—паказваецца тэхнічнае становішча данага транспарту перад здарэньнем, г. зн. ці ня было якіх-небудзь дэфэктаў (няспраўнасьць тармазоў, рулявога кіраваньня і г. д.), у выніку якіх мела месца здарэньне.

Паколькі карткі павінны быць накіраваны ў мясцовы орган РС Міліцыі не пазьней 24 гадзін і ў пэўных выпадках неадкладна, то пры вылічэньні страт браць у разьлік толькі наступныя аб'екты:

а) каштоўнасьць аднаўленьня ўласнага транспарту;

б) каштоўнасьць зьнішчанай, папсаванай ці пашкоджанай маемасьці і груза, які перавазіўся на транспарце.

Калі рух быў парушан, а складальніку карткі працяжнасьць парушэньня невядома, дык ім падкрэсьліваецца першы радок п. 5-га, а калі рух не парушаўся, дык пасьля першага слова ставіцца: „не“.

**Па пытаньню 18**—свабодная (трэцяя) рубрыка запаўняецца ў тых выпадках, калі маюць месца, апрача паказаных, іншыя прычыны, напрыклад: хвароба вадзіцеля і інш. У гэтых выпадках у рубрыцы дакладна паказваецца становішча вадзіцеля.

**Па пытаньню 19**—паказваецца, колькі і якія віды транспарту, апрача данага, удзельнічалі ў здарэньні ці аварыі і іх нумарныя знакі (як бляшанкі, так і іншыя нумары, напрыклад: трамваяў і аўтобусаў), уласьнікі і іх адрасы, калі гэтыя даныя вядомы складальніку карткі.

**Па пытаньню 22**—калі быў складзен міліцэйскі пратакол аб здарэньні, дык дакладна паказаць, якім органам пратакол складзен, дату і нумар пратаколу. Калі пратакол не складаўся, робіцца адзнака „не складаўся“.

**Па пытаньню 23**—паказаць, у якой форме—вуснай альбо пісьмовай—была зроблена заява аб здарэньні вадзіцелем і праставіць дату складаньня паведамленьня.

Паведамленьне падпісваецца асобай, яго склаўшай, з поўным абазначэньнем яе пасады.

### В. Парадак запаўненьня карткі № 2.

23. Картка складаецца лячэбнай установай, аптэкай, прыёмным пакоем і іншымі лячэбнымі ўстановамі ці паасобнай асобай мэдычнага пэрсаналу, паказанымі ў арт. 9 гэтай інструкцыі.

24. Картка разьбіваецца на дзьве часткі, другая частка якой—п. п. 20—22—запаўняецца толькі лячэбнай установай, прычым пры запаўненьні яе апошняй ёю-ж запаўняецца таксама і першая частка—п. п. 1—19—незалежна ад таго, што на данага пацярпеўшага ўжо раней картка магла быць складзена другой лячэбнай установай ці асобай мэдычнага пэрсаналу (урачом, фэльчарам, заг. аптэкі і інш.).

25. Пры аказаньні паўторнай амбуляторнай дапамогі на даму ці ў лячэбнай установе карткі не складаюцца.

26. У аптэках картка складаецца і падпісваецца абавязкова загадчыкам, а ў яго адсутнасьці—асобай, яго замяняючай.

27. Картка запаўняецца (першая частка) са слоў пацярпеўшага, прычым пры немагчымасьці апытаньня апошняга—на падставе маючыхся ў яго дакумантаў ці апытаньня асоб, даставіўшых пацярпеўшага.

28. На адну асобу ня можа быць складзена некалькі картак. Лячэбны орган, куды пацярпеўшы зьвяртаўся за дапамогаю, пры заяве пацярпеўшага аб тым, што на яго ўжо была складзена картка па данаму няшчаснаму выпадку, абмяжоўваецца толькі лячэбнай дапамогай.

Паведамляючы РС Міліцыі аб: 1) выпісцы за выздараўленьнем, 2) пераводзе ў другую лячэбную ўстанову і 3) сьмерці, зьнізу запісаў прастаўляецца пасада асобы, склаўшай картку, якая ёю і падпісваецца з паказаньнем даты.

### V. Аб аб'ёме зьвестак, якія павінен паведаміць вадзіцель транспарту пры здарэньнях.

30. У адпаведнасьці з арт. 10 гэтай інструкцыі кожны вадзіцель транспарту пры здарэньні абавязан вусна ці пісьмова паведаміць бліжэйшаму начальніку альбо ўласьніку транспарту зьвесткі, прадугледжаныя ў картцы ф. № 1 па наступных пытаньнях: 1, 3, 4, 5, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 19, 21, 22.

Зьвесткі па пытаньнях 11, 20 і 22 высьвятляюцца ў межах магчымасьці.

### VI. Адказнасьць за парушэньне правіл гэтай інструкцыі.

31. Парушэньне правіл гэтай інструкцыі цягне адказнасьць у адміністрацыйным парадку ў выглядзе штрафу да 100 руб., накладаемага на вінаватых асоб адпаведнымі начальнікамі кіраўніцтваў РС Міліцыі.

32. Асобы, вінаватыя ва ўнясеньні пры запаўненьні картак (ф. № 1 і № 2) заведама няправільных зьвестак, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці па адпаведных артыкулах Крымінальнага Кодэксу.

Начальнік Аддзелу Адмнагляду і наружнай службы **Дэрман.**

Ст. Інспэктар па рэгуляваньні вулічнага руху **Пармонік.**

**Узгоднена**
з Галоўдартрансам БССР—адносьнік за 10|X-1932 г. № 13-3. 3.
з Наркамгасам БССР—адносьнік за 3|X-1932 г. № 3-101.
з Наркамздравам БССР—адносьнік за 8|X-1932 г. № 56.
з Кіраўніцтвам Наргасвучоту БССР—адносьнік за 11|X-1932 г. № 6.

Форма № 1

## Паведамленьне аб здарэньні №..........

| 1. Час здарэньня | 193.....г. „ " ..........<br>..........гадз...........мін. | 2. Якое здарэньне (Графа запаўняецца ў орг. РС Міліцыі). |
|---|---|---|

3. Месца здарэньня

4. Кароткае апісаньне здарэньня

5. Ці маецца папсаваньне шляху ці шляхавых пабудоў

6. Заключэньне аб прычынах здарэньня

7. Становішча транспарту перад здарэньнем

| 8. Род шляху: | 9. Становішча шляху | 10. Становішча надвор'я | 11. Вынікі |
|---|---|---|---|
| 1. Грунтовы<br>2. Врэменка<br>3. Фашыньнік<br>4. Шаша<br>5. Булыжнік<br>6. Торц<br>7. Клінкер<br>8. Брушчатка<br>9. Асфальт<br>10. Гудрон<br>11. Рэйкавы | 1. Суха<br>2. Вільготна<br>3. Гразь<br>4. Сьлізка<br>5. Голалёдзіца<br>6. Сьнежны налёт<br>7. Ледзян. кара<br>8, Ухабы<br>9, Правядзен. рамонту | 1. Ясна<br>2. Туман<br>3. Дождж<br>4. Сьнегапад | 1. Пацярпела ..........асоб. У тым ліку Мужч. .......... Жанч. .......... |
| 12. Назва транспарту, аб якім паведамляецца | 13. Знак №..........<br>Маршрут №..........<br>Цягнік №..........<br>Аўтобус № ..........<br>Матор. ваг. №.......... | | 2. Пацярпела транспарту .......... жывёлы..........<br>3. Пашкоджан транспарт на ..........руб.<br>4. Пашкоджан на ..........руб. груз, які перавозіўся на транспарце<br>5. Рух быў спынен на ..........гадз. ..........мін. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 14. Уласьнік транспарту | | 15. Адрас уласьніка | Тэл. №.................. |
| 16. Месца сталай стаянкі транспарту | | 17. Адрас стаянкі транспарту | Тэл. №__________ |
| 18. а) Прозьвішча, імя і па бацьбу вадзіцеля | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| б) Вадзіцельскае пасьв. | в) Службовае пасьведч. | г) Пол: | д) Узрост | е) Стаж | ж) Станов. вадзіцеля ў момант здарэньня: | з) Хатні адрас вадзіцеля. |
| № .................. | № .............. | Мужч.<br>Жанч. | ............... год | вадзіцеля<br>.............................. | Цьвярозы<br>П'яны | Тэл. № .......... |

19. Зьвесткі аб іншых транспартных адзінках, удзельнічаўшых у здарэньні.

| Назва транспарту | №...................... | Уласьнік |
|---|---|---|
| | | |

20. Пацярпеўшыя пры здарэньні:

| Прозьвішча, імя і па бацьку | А д р а с |
|---|---|
| | |

21. Сьведкі здарэньня:

| Прозьвішча, імя і па бацьбу | А д р а с. |
|---|---|
| | |

| | |
|---|---|
| 22. Якім органам РС Міліцыі складзен пратакол | №......................<br>пратаколу |

23. Паведамленьне складзена „ “ .................. 193 г. на падставе .............................................................. заявы вадзіцеля

(вусная, пісьмовая)

Пасада склаўшага і яго

подпіс..................................

**Форма № 2.**

**Паведамленьне аб пацярпеўшых пры вулічным руху.**

| 1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку пацярпеўшага | 2. Пол | 3. Узрост | 4. Адрас пацярпеўшага |
|---|---|---|---|

| | |
|---|---|
| 5. У даным месцы пражывае . . . . . . . год | 11. Час здарэньня<br>12. Месца здарэньня |
| 6. Прыежджы | 13. Від транспарту, ад якога пацярпеў |
| 7. Сацыяльнае становішча | 14. Пры наяўнасьці якіх абставін пацярпеў |
| 8. Хто пацярпеў: пешаход<br>пасажыр<br>вадзіцель<br>абслугоўваючы транспарт | 15. Як дастаўлен<br>16. Дыагназ |
| 9. Фізычнае становішча: Цьвярозы<br>П'яны<br>Сьляпы<br>Глухі<br>Інвалід | 17. Якая мэддапамога аказана<br>18. Куды накіраван |
| 10. Характар пашкоджаньняў: Сьмярцельна<br>Цяжка<br>Лёгка<br>Ушыб | 19. Як адпраўлен |

Хто і дзе склаў паведамленьне і на падставе чаго (паказаньне пацярпеўшага, а калі памёр, то на падставе матарыялу дазнаньня, сьведак і інш.).

Подпіс

Дата (год, месяц, дзень, гадз., мін).

**На адвароце карткі**

**Дадатковыя зьвесткі лячэбнай установы.**

| | | |
|---|---|---|
| 20. Знаходзіўся на лячэньні | Амбуляторна . . . . . . дзён | |
| | Стацыянарна . . . . . . дзён | |
| 21. Выпісан | За выздараўленьнем | |
| | За пераводам у друг. лячэбн. установу | |
| | За сьмерцю | |
| 22. Страта працаздольнасьці | Часовая . . . . . . . дзён | |
| | Частковая . . . . . . проц. | |
| | Поўная | |

Дата. Пасада і подпіс.

## ПАПРАЎКА

У „Правілах па збору, хаваньні і здачы сум сельскагаспадарчага падатку і акладнога страхаваньня 1933 г." (Бюл. НК і ЦУ БССР 1932 г. № 9) трэба выправіць наступныя памылкі:

1. Стар. 4, радок 11 зьнізу, трэба: „на бягучы рахунак райфа па дзяржстрахаваньні № 157."

2. Стар. 6, радок 10 зьнізу, трэба: „на бягучы рахунак райвыканкому па дзяржстрахаваньні № 157".

Адказны Рэдактар **І. Фрыдман.**

Друк. Кір. Спраў СНК і Эканам. Савету БССР. Галоўлітбел 412. Зак. 1603. Тыраж 3820

# Абвестка

У 1933 г. Збор Законаў БССР і Бюлятэнь НК і ЦУ БССР, якія выдаюцца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР (г. Менск, Чырвонаармейская, 3), усім бюджэтным установам (наркаматам, цэнтральным установам, РВК, гарсаветам, сельскім і местачковым саветам і г. д.), а таксама гаспадарч., каперацыйн. і інш. арганізац. і прыватным асобам будуць высылацца ТОЛЬКІ ПА ПАПЯРЭДНЯЙ ПАДПІСЦЫ, якая павінна здавацца мясцовай паштовай установе, не накіроўваючы апошняй непасрэдна ў Рэдакцыю.

## Бясплатнай рассылкі гэтых выданьняў у 1933 годзе ня будзе

| | |
|---|---|
| ПАДПІСНАЯ ПЛАТА НА ГОД | за Збор Законаў — —10 руб.<br>за Бюлятэнь — — — 5 руб. |
| ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА ТОЛЬКІ НА АДЗІН ТЭРМІН | з 1 студзеня па 31 сьнежня 1933 г. Месячная, квартальная ці паўгадовая падпіска ня прымаецца. Паштовыя ўстановы, прымаючы падпіску, павінны строга прытрымлівацца гэтага правіла. |
| УСЯ ПАДПІСКА ПАВІННА БЫЦЬ ЗДАНА | мясцовым паштовым установам не пазьней 20 студзеня 1933 г. Пры спазьненьні са здачай падпіскі да паказанага тэрміну выданьні ўсім спазьніўшымся падпішчыкам будуць высылацца бяз першых нумароў. |
| НІЯКАЙ АДКАЗНАСЬЦІ ЗА НЕДАСЫЛКУ | паасобных нумароў выданьняў падпішчыкам Рэдакцыя не нясе. Усе скаргі на неатрыманьне нумароў падаюцца мясцовай паштовай установе, дзе была здана падпіска. |

Рэдактар-Кансультант Савету Народных Камісараў і Эканамічнага Савету БССР І. ФРЫДМАН.